Праваабарончы
# Веснік
снежань 2013
Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

# FIDH І ПРАВААБАРОНЧЫ ЦЭНТР «ВЯСНА» ПАТРАБУЮЦЬ НЕАДКЛАДНАГА І БЕЗУМОЎНАГА ВЫЗВАЛЕННЯ МІКАЛАЯ СТАТКЕВІЧА І ІНШЫХ ПАЛІТЫЧНЫХ ЗНЯВОЛЕНЫХ

Тры гады таму, 19 снежня 2010 года, услед за сілавым разгонам мітынгу пратэсту на плошчы Незалежнасці ў г.Мінску рушыў шэраг арыштаў, затрыманняў і пераследу прадстаўнікоў апазіцыі, актывістаў і грамадзянаў, якія бралі ўдзел у мірных дэманстрацыях у сталіцы Беларусі. Многія з іх пасля падвергліся судоваму пераследу, уключаючы некалькіх кандыдатаў у прэзідэнты. 19 снежня быў затрыманы і кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, апазіцыйны палітык Мікалай Статкевіч, які і па сённяшні дзень застаецца ў зняволенні.

26 траўня 2011 г. судом Ленінскага раёна г. Мінска Мікалай Статкевіч быў асуджаны да 6-ці гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму па ч. 2 арт. 293 КК Рэспублікі Беларусь. На дадзены момант Мікалай Статкевіч адбыў палову вынесенага яму тэрміну зняволення.

Прадстаўнікі беларускіх праваабарончых арганізацый, якія праводзілі маніторынг судовага пасяджэння, прыйшлі да высновы, што ў ходзе судовага паседжання не была даказаная віна Мікалая Статкевіча ў здзяйсненні інкрымінуемых яму дзеяў - арганізацыі масавых беспарадкаў альбо непасрэднага кіраўніцтва і ўдзелу ў іх. Судовае разбіральніцтва не адпавядала стандартам незалежнага і бесстаронняга разгляду. Праваабарончыя арганізацыі таксама выказалі нязгоду з кваліфікацыяй уладамі падзеяў, якія адбыліся 19 снежня 2010 г., як масавых беспарадкаў, а празмернае прымяненне сілы органамі правапарадку Беларусі і рэпрэсіі, якія рушылі за гэтым, выклікалі рэзкае і адназначнае асуджэнне міжнароднай супольнасці.

Як афіцыйна зарэгістраваны ў ЦВК Беларусі кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч сапраўды неаднаразова заклікаў грамадзянаў



краіны прыняць удзел у мірнай дэманстрацыі пратэсту і выказаць сваё меркаванне з нагоды мінулых выбараў прэзідэнта Беларусі і ўдзелу ў іх Аляксандра Лукашэнкі, які знаходзіцца ва ўладзе з 1994 года.

FIDH і ПЦ «Вясна» адзначаюць, што права на мірныя сходы гарантавана як Канстытуцыяй Беларусі, так і міжнароднымі нормамі права ў галіне правоў чалавека.

19 чэрвеня 2011 года Рабочая група па адвольных затрыманнях пры Савеце па правах чалавека ААН вынесла рашэнне, што пазбаўленне волі М. Статкевіча з'яўляецца адвольным і парушае арт. 9 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і арт. 9 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, ратыфікаванага Рэспублікай Беларусь. Рабочая група заклікала ўрад Беларусі прыняць неабходныя меры для выпраўлення сітуацыі, уключаючы неадкладнае вызваленне Статкевіча і выплату адэкватнай кампенсацыі.

Падчас адбыцця пакарання ў калоніі г. Шклова Мікалай Статкевіч неаднаразова падвяргаўся рознага кшталту дысцыплінарным спагнанням, у тым ліку змяшчаўся ў штрафны ізалятар (ШІЗА) і памяшканне камернага тыпу (ПКТ) з прычыны «злоснага парушэння рэжыму». 12.01.2012 г. на закрытым пасяджэнні Шклоўскі раённы суд змяніў рэжым адбыцця пакарання Мікалая Статкевіча на больш строгі - тры гады турэмнага зняволення. На працягу ўсяго зняволення на Мікалая Статкевіча аказваўся ціск з патрабаваннем падпісаць прашэнне аб памілаванні, прычым з гэтай мэтай з боку адміністрацыі арганізоўваліся розныя правакацыі, у *тым ліку пры выбары яго сукамернікаў.*

*FIDH і ПЦ «Вясна» лічаць, што пераслед Мікалая Статкевіча звязаны выключна з яго палітычнай дзейнасцю, у тым ліку з мірным ажыццяўленнем права на свабоду сходаў і меркаванняў, і мае на мэце выключна спыненне палітычнай дзейнасці Мікалая Статкевіча.*

*У сувязі з гэтым FIDH і Праваабарончы цэнтр «Вясна» патрабуюць ад уладаў Беларусі неадкладнага і безумоўнага вызвалення Мікалая Статкевіча, а таксама іншых палітычных зняволеных, іх поўнай рэабілітацыі з пакрыццём нанесенай шкоды.*

# МАГІЛЁЎШЧЫНА: У СКЛАДЗЕ ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫХ ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЙ ПРАДСТАЎНІКОЎ АПАЗІЦЫІ НЯМА

Магілёўскія дэмакраты вылучалі ў склад Магілёўскай абласной выбарчай камісіі двух чалавек, а ў склад Магілёўскай гарадской выбарчай камісіі – аднаго.

Сіуацыю каментуе праваабаронца Барыс Бухель:

“У абласную выбарчую камісію не ўключылі актывіста Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” Аляксандра Козіна і актывіста Аб’яднанай Грамадзянскай партыі Уладзіміра Парфёнава. Прычыны неўключэння абсалютна надуманыя – проста не адпавядаюць патрабаванням кандыдатаў. Цікава ведаць, кім трэба быць, каб увайсці ў склад гэтай камісіі, тым больш, што Уладзімір Парфёнаў ужо прымаў удзел у працы выбарчай камісіі”.

Праваабаронца адзначае, што 27 снежня адбылося сумеснае пасяджэнне Прэзідыума Магілёўскага гарадскога Савета дэпутатаў і Магілёўскага гарадскога выканаўчага камітэта, на якім была ўтвораная Магілёўская




гарадская камісія па выбарах дэпутатаў Магілёўскага гарадскога Савета дэпутатаў 27-га склікання.

“Камісія была сфармавана цягам 10 хвілін. Было відавочна, што кандыдатуры ўжо былі загадзя ўзгоднены, і таму пасяджэнне чыноўнікаў і дэпутатаў мела выключна фармальны характар. Гэтым разам у склад выбарчай камісіі не быў уключаны прадстаўнік Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” прафесар Валеры Беразіенка. Не быў ён уключаны па “прафесійнадзелавых і узроставых фактархм”. Верагодна, чыноўнікам не спадабалася, што мінулы раз, будучы ў складзе акруговай выбарчай камісіі, Беразіенка адмовіўся падпісваць выніковы пратакол”, - гаворыць Барыс Бухель.

Трэба адзначыць, што праваабаронцы без перашкод здолелі назіраць за фарміраваннем гарадской выбарчай камісіі і былі загадзя запрошаны на пасяджэнне.

# У МАГІЛЁВЕ АКТЫВІСТ АГП АТРЫМАЎ ТРОЕ СУТАК ЗНЯВОЛЕННЯ

26 снежня Антон Касцоў пайшоў у Кастрычніцкі РАУС Магілёва для разбіральніцтва з нагоды забранага ў яго на кватэры падчас ператрусу ноўтбука, аднак з міліцыі хлопец больш не выйшаў.

Міліцыянты адвезлі яго ў суд, які прысудзіў яму трое сутак у якасці адміністрацыйнага пакарання за парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў.

Пасля акцыі “Стоп-падатак” у Магілёве міліцыянты вылічылі, што групу “Вконтакте” “Стоп-страх” мадэруе 23-гадовы актывіст Аб’яднанай Грамадзянскай партыі Антон Касцоў.

Да хлопца дадому з’явіліся міліцыянты, у тым ліку намеснік начальніка Кастрычніцкага РАУСа Магілёва, які загадаў хлопцу выдаліць групу “Стоп страх”, якая таксама займалася анансаваннем чарговай акцыі аўтамабілістаў супраць падатку на аўто, якая мусіць адбыцца 27 снежня ў Магілёве. Калі ён не пагодзіцца гэта зрабіць, то, нібыта, будуць непрыемныя наступствы. Міліцыянты выставілі ўльтыматум, паводле якога 24 снежня група ў “Стоп-страх” мусіць быць выдалена.

Вечарам 24 снежня Касцоў, пасля кансультацыі з магілёўскімі праваабаронцамі, пайшоў у Кастрычніцкі РАУС Магілёва, каб даць тлумачэнні, што выдаліць групу не можа, бо яе адміністратарам з’яўляецца зусім іншы чалавек, і ў яго няма права доступу да гэтай групы.

У міліцыі хлопец правёў тры гадзіны, пасля чаго ў суправаджэнні трох міліцыянтаў быў дастаўлены да сябе дадому. Там у яго адбыўся перагрус, якім кіраваў сам начальнік Кастрычніцкага РАУСа Магілёва. У хлопца міліцыянты забралі ноўтбук і сказалі прыйсці яму ў РАУС для далейшага разбіральніцтва 26 снежня, што і было зроблена Антонам. У той жа дзень была выдалена група “Стоп-страх”.

Акрамя таго, 24 снежня стала вядома, што хлопцам тэрмінова зацікавіўся ваенкамат і пажадаў яго адправіць на зборы. 26 снежня ён мусіў таксама наведаць і гэтую ўстанову, аднак аб выніках гэтага візіту пакуль нічога невядома.

Кіраўнік Магілёўскай абласной арганізацыі АГП Уладзімір Шанцаў адзначае, што міліцыянты паступілі подла – заманілі актывіста нібы на размову, а ў выніку пасадзілі яго на суткі.

“Вось тут і раскрываецца сапраўднае аблічча нашай міліцыі – у іх хітрасці і подласці. Хлопца заманілі каб не ствараць загадзя лішняга шуму і гэтак жа ціха асудзілі. Гэта знак іншым актывістам, каб не праяўлялі актыўнасці, бо сунешся – будзеш сядзець на сутках, альбо атрымаеш штраф”, - кажа Шанцаў.

20 снежня ў Магілёве адбылася акцыя “Стоп-падатак”. Некалькі аўтамабілістаў ездзілі па цэнтру горада з уключанай аварыйнай сігналізацыяй і сігналілі. Міліцыянты прыпынялі некаторых удзельнікаў, аднак не штрафавалі. Акцыя не была масавай.

# МАГІЛЁЎСКІ АБЛАСНЫ СУД СПЫНІЎ СПРАВУ СУПРАЦЬ ГАЗЕТЫ "ВОЛЬНЫ ГОРАД"

**Судовая калегія па грамадзянскіх справах Магілёўскага абласнога суда ў выніку разгляду скаргі прыняла рашэнне адмяніць цалкам рашэнне суда Крычаўскага раёна (суддзі Антаніны Качанавай) з прычыны непадсуднасці і спыніць вытворчасць па справе.**

4 снежня ў Магілёве судовая калегія па грамадзянскіх справах Магілёўскага абласнога суда разгледзела касацыйную скаргу выдаўца крычаўскай газеты "Вольны горад" Уладзіміра Кудраўцава.

У касацыйнай скарзе на рашэнне суда Крычаўскага раёна ад 22 кастрычніка 2013 года па пазову КУП "Чэрыкаўскае ПМК-280" аб абароне дзелавой рэпутацыі выдавец газеты "Вольны горад" Уладзімір Кудраўцаў звяртаўся з просьбай адмяніць рашэнне суда і спыніць вытворчасць па справе, спагнаць з пазоўніка на яго карысць 150000 рублёў выплачанай ім дзяржпошліны, вынесці прыватнае вызначэнне на адрас суддзі суда Крычаўскага раёна Качанавай А. В. за недастатковы прафесіяналізм.

Судовая калегія па грамадзянскіх справах Магілёўскага абласнога суда ў выніку разгляду скаргі прыняла рашэнне адмяніць цалкам рашэнне суда Крычаўскага раёна (суддзі Антаніны Качанавай) з прычыны непадсуднасці і спыніць вытворчасць па справе.

"Мы змаглі дамагчыся перамогі, таму што змагаліся да апошняга, - кажа рэдактар газеты "Вольны горад Сяргей Няроўны. – Мы раіліся з праваабаронцамі і знайшлі зачэпку, каб рашэнне суда Крычаўскага раёна адмянілі. Судовая калегія Магілёўскага абласнога суда вымушана была пагадзіцца з нашымі довадамі. Чэрыкаўскай ПМК-280 не дапамагло нават тое, што на разгляд касацыйнай скаргі ў Магілёў прыязджала іх адвакат




Кацярына Гадунова і юрыст гэтай арганізацыі. Нашы довады аказаліся больш пераканаўчыя.

Асобна хачу падзякаваць праваабаронцу Барысу Бухелю, які дапамог нам дабіцца справядлівага рашэння суда".

Сам Барыс Бухель кажа, што ён вельмі задаволены, што журналістам "Вольнага горада" удалося адстаяць сваю праваду.

"У дадзеным выпадку мы цалкам задаволены, - распавядае Барыс Бухель. – Нам удалося адстаяць сваю праваду. Суддзі ў Магілёўскім абласным судзе доўга раіліся, аднак цалкам пагадзіліся з нашымі довадамі. Зараз усе нашыя высілкі будуць накіраваныя на тое, каб пры разглядзе нагляднай скаргі журналістаў газеты "Вольны горад" было адмененае таксама і папярэдняе рашэнне суда Крычаўскага раёна (суддзя Аляксандр Курылін) па пазову Чэрыкаўскага ПМК-280, а таксама былі вернутыя грошы за судовыя выдаткі журналістам "Вольнага горада".

Па інфармацыі праваабаронцы, наглядная скарга выдаўца газеты "Вольны горад" на рашэнне суда Крычаўскага раёна ад 17 чэрвеня 2013 года па пазове КУП "Чэрыкаўскае ПМК-280" аб абароне дзелавой рэпутацыі на імя старшыні Магілёўскага абласнога суда павінна быць разгледжана да 21 снежня. Барыс Бухель спадзяецца, што і гэта рашэнне суда Крычаўскага раёна будзе адмененае і вытворчасць па справе спыненая.

Нагадаем, што раней праваабаронца азнаёміўся з адпаведнымі дакументамі і высветліў, што суддзі Крычаўскага раённага суда і Магілёўскага абласнога суда наогул не мелі права разглядаць пазовы з боку КУП "Чэрыкаўскае ПМК-280" да незалежнай газеты "Вольны горад" аб абароне дзелавой рэпутацыі, дзе адказчыкам выступаў яе заснавальнік Уладзімір Кудраўцаў.

Барыс Бухель адзначыў, што спрэчкі паміж юрыдычнай асобай і фізічнай асобай, якія звязаны з абаронай дзелавой рэпутацыі у сферы прадпрымальніцкай і іншай гаспадарчай (эканамічнай) дзейнасці мусіць разглядаць толькі гаспадарчы суд.

Па словах Бухеля, гэта прапісана ў артыкуле 47 Гаспадарча-працэсуальнага Кодэкса і ў пункце 6 Пастановы пленума Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь №16 ад 26.04.2005 г.

Праваабаронца казаў, што суд Крычаўскага раёна наогул не меў права прымаць да разгляду пазовы з боку КУП "Чэрыкаўскае ПМК-280", а мусіў быў растлумачыць пазоўнікам, што з адпаведным пазовам яны павінны звяртацца ў гаспадарчы суд. Справядлівасць яго высновы спраўдзіла Судовая калегія па грамадзянскіх справах Магілёўскага абласнога суда.

# ПОДДЕРЖИТЕ ПОЛИТЗАКЛЮЧЕННЫХ!

Людям, которые лишены свободы за свои убеждения, особенно важна поддержка общества. Найдите несколько минут и напишите письмо политическим заключенным! Возможно, именно ваши слова помогут им выдержать испытание неволей.

**Алесь Беляцкий:**
213807, Могилевская обл., г. Бобруйск, ул. Сикорского, 1, ИК №2, отряд 14

**Николай Статкевич, Евгений Васькович, Николай Дедок:**
212011, г. Могилев, ул. Крупской, 99а, тюрьма №4

**Артем Прокопенко:**
213105 г. Могилев, Славгородское шоссе, 183, ИК №15

**Андрей Гайдуков:**
213030, г. Могилев, Славгородское шоссе, 3-й км, ИК №19

**Николай Автухович:**
230023, г. Гродно, ул. Кирова, 1, тюрьма №1

**Эдуард Лобов:**
225295, Брестская обл., г. Ивацевичи, «Волчьи норы», а/я 20, ИК №22

**Игорь Олиневич:**
211440, Витебская обл., г. Новополоцк, ул. Техническая, 8, ИК №10

## Кто такие политзаключённые?

*СПРАВКА*

**Авторитетная международная организация «Международная амнистия» политзаключённым называет человека, в лишении свободы которого присутствует существенный политический момент.**

**Политизаключенных зачастую осуждают по итогам процессов, сопровождавшихся нарушениями международных норм справедливого судопроизводства. Иногда их годами держат в предварительном заключении без суда и следствия. Amnesty International требует, чтобы все политические заключенные предстали перед справедливым судом в разумные сроки.**

**В отличие от узников совести, среди политзаключённых могут быть и те, кто прибегал к насильственным действиям (в том числе совершая уголовно-наказуемые деяния), либо призывал к насилию или вражде. Однако все обвинения в их адрес либо их часть могут быть и ложными. Amnesty International добивается лишь того, чтобы дела таких людей были рассмотрены в суде в разумные сроки и с соблюдением всех гарантий справедливого суда, как-то: право на адвоката по своему выбору, отказ от рассмотрения показаний, полученных под пытками и так далее.**

**Термин «политзаключенный» не означает, что человек обладает каким-то особым статусом, или что организация придаёт ему какое-то особое значение. Amnesty International не поддерживает и не опровергает взгляды таких людей, а также никак не оценивает необходимость тех или иных боевых действий в ходе политического противостояния или конфликта.**

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.